# Супольнасьць

БЮЛЕТЭНЬ КААРДЫНАЦЫЙНАЕ РАДЫ КАНФЭДЭРАЦЫІ БЕЛАРУСКІХ СУПОЛАК

14-15 студзеня 1989 № 1


# ЗВАРОТ КАНФЭДЭРАЦЫІ БЕЛАРУСКІХ СУПОЛАК да беларускае моладзі

## 1. УВОДЗІНЫ

З ЧАСУ Вальнага Сойму беларускіх суполак у Палачанцы пад Менскам праміну́ў год. За гэты час выразна зьмянілася палітычная сітуацыя і у БССР, і у астатніх рэспубліках СССР. Ліст Ніны Андрэевай, XIX партканфэрэнцыя, палеміка вакол папраўак да Канстытуцыі і новага закону пра выбары... Мы пачынаем жыць палітычным жыцьцём, пачынаем бачыць, што разуменьне перабудовы бюракратычнае клясы ані не супадае з разуменьнем гэтага паняцьця у народу. Здаровыя сілы грамадзтва, незалежна ад сьветапогляду, нацыянальнае і партыйнае прыналежнасьці гуртуюць намаганьні, ставяць канкрэтныя задачы і выпрацоўваюць аптымальныя спосабы іх вырашэньня. Агульная мэта гэтых сілаў —пабудова дэмакратычнага, прававаго, гуманнага сацыялізму.

У братніх прыбалтыйскіх рэспубліках аформіліся агульнанацыянальныя, масавыя дэмакратычныя рухі. У Эстоніі і Латвіі гэта - Народныя Франты, у Літве -- "Саюдзіс" /Літоўскі Рух Перабудовы/. Народ пазбыўся страху і распраставу плечы. Паляцелі з пасадаў шматлікія бюракраты брэжнеўскай гадоўлі. Зусім зразумелыя таму істэрычныя спробы нашай тутэйшай бюракратыі ачарніць, абклеіць ярлыкамі прыбалтыйскі дэмакратычны рух, пасварыць беларусаў з суседзямі. Дзеля распальваньня міжнацыянальнай варожасьці яны ня цураюцца распусканьня ілжывых чутак нават праз газэты. Але мы не дамо справакаваць сябе. Мы створым масавы рух, задачай якога будзе забясьпечыць правы чалавека і правы народу. Беларускаму Народнаму Фронту за перабудову "Адраджэньне" надзвычай патрэбныя наша адданая праца, наша прынцыповасьць і энэргія. Канфэдэрацыя абвяшчае сябе аддзелам БНФ.

Мы крыху спазьніліся у параўнаньні з Прыбалтыкай з пэўных аб"ектыўных прычынаў. Папершае, гэта слабасьць нацыянальнае сьвядомасьці беларусаў і, што адсюль вынікае, спадзяваньне на рэформы з цэнтру. Па-другое, і гэта таксама вынік нізкае нацыянальна-палітычнае сьвядомасьці народу, у БССР надзвычай моцныя пазіцыі маюць ідэолагі стагнацыі, антыперабудоўчыя сілы. Беларусь сталася як бы палігонам перабудовы без перабудовы. Гэта надае сілы і упэўненасьці мясцовай бюракратыі, і яна не цураецца ніякіх мэтадаў, каб захаваць кантроль над становішчам: тут і прафанацыя ідэяў, і пасквілі у газэтах, і сакрэтныя "ориентировки", і закулісныя інтрыгі, і дубінкі, і сьлезацечныя газы.

Але, нягледзячы на жорсткі бюракратычны ціск, за апошнія месяцы адбыліся падзеі, якія засьведчылі, што будучыня менавіта за БЕЛАРУСКІМ АДРАДЖЭНЬНЕМ. Маем на ўвазе шматтысячныя мітынгі на менскім Пляцы Волі, ва урочышчы Курапаты пад Менскам, у Наваполацку, у Гродні, рух на Віцебшчыне супраць АЭС. Падзеі 30 кастрычніка у Менску паказалі, што рэспубліканскія вярхі інакш, як сілай, трымацца ля стырна ня могуць. Яны канчаткова страцілі права называцца кіраўнікамі і тым больш "народнымі абраньнікамі". З другога боку, пасьля 30 кастрычніка людзі вярталіся у дамы з новым пачуцьцём. Яны усьвядомілі сябе народам, нацыяй. Многія з нас прайшлі там хрост. Мы узьняліся да новага стану, і яго трэба асэнсаваць і замацаваць.

На першым Вальным Сойме мы прынялі плятформу, большая частка тэзаў якой мусіць захоўваць моц. Але час патрабуе удакладніць або дадаць да тае плятформы многія пункты, выказацца па самых балючых пытаньнях жыцьця рэспублікі, і — галоўнае — зрабіць плятформу правамоцным дакумэнтам усяго беларускага маладзёжнага руху.

Дзеля гэтага мы мусім згуртавацца. Аптымальнаю формай згуртаваньня у нашых варунках зьяўляецца згуртаваньне на прынцыпах КАНФЭДЭРАЦЫІ. Такое згуртаваньне мае на ўвазе поўнае захаваньне кожным аб'яднаньнем прынцыпу свае будовы, непасрэдных мэтаў і кірункаў дзейнасьці, інакш кажучы, незалежнасьці; салідарнасьць сяброў аб'яднаньняў з тэзамі пададзенае ніжэй плятформы; стварэньне КААРДЫНАЦЫЙНАЕ РАДЫ. Такім чынам, згуртаваньне не ператворыцца у жорсткую структуру, але застанецца РУХАМ, сяброўства у якім калектыўнае. У Каардынацыйную Раду абіраецца пасол ад Менску, ад кожнае вобласьці БССР і ад кожнае рэспублікі, дзе ёсьць беларускія згуртаваньні. Прапаноўваем для згуртаваньня назву КАНФЭДЭРАЦЫЯ БЕЛАРУСКІХ СУПОЛАК.

На нашую думку, Канфэдэрацыя павінна паставіць сабе за мэту аб"яднаньне усяе палітычна і нацыянальна сьвядомае моладзі, якая выступае у падтрымку радыкальнае перабудовы на Беларусі. Дзейнасьць Канфэдэрацыі мусіць быць адкрытая і весьціся у адпаведнасьці з Канстытуцыяй БССР.

Пастаўленых мэтаў Канфэдэрацыя будзе дамагацца: 1/ праз Саветы народных дэпутатаў шляхам вылучэньня і абраньня кандыдатаў, праз сістэму дэпутацкіх наказаў і г.д. 2/ масавымі акцыямі /мітынгамі, дэманстрацыямі, публічнымі дыскусіямі і інш./, якія непасрэдна выяўляюць грамадзкае меркаваньне гэтых праблемаў; 3/ праз сродкі масавай інфармацыі; 4/ выпрацоўкаю альтэрнатыўных праектаў, прапановаў і г.д. Прынцыповая задача на шляху да мэтаў— выхаваньне палітычна актыўнае і нацыянальна сьвядомае моладзі. Гэтага кожная суполка дамагаецца найбольш адпаведным сваёй сьпецыфіцы чынам.

Заклікаем гуртавацца у КАНФЭДЭРАЦЫІ МАЛАДЗЁЖНЫХ СУПОЛАК ня толькі маладзёжныя суполкі БССР, але і беларускія суполкі і зямляцтвы, якія дзеюць па-за межамі рэспублікі.

грамадзкімі арганізацыямі. Усе храмы, якія за раз ніяк не выкарыстоўваюцца, або форма выкарыстаньня іх неэтычная, мусяць быць вернутыя адпаведным канфэсіям зь іхняе згоды. Падтрымліваем выкарыстаньне беларускае мовы ў набажэнствах.

8. Неад"емнае права кожнага грамадзяніна ў дэмакратычнай дзяржаве — гэта права стварэньня грамадзкіх /грамадзка-палітычных/ арганізацыяў. Рэгістрацыя арганізацыяў у мясцовых органах улады павінна зыходзіць з прынцыпу паведамленьня. Калі органы ўлады палічаць, што мэты і формы дзейнасьці арганізацыі носяць антыканстытуцыйны характар, яны падаюць на арганізацыю ў суд, які і вырашае лёс апошняе.

9. Актам найвышэйшае справядлівасьці сталася б прыцягненьне да судовае адказнасьці арганізатараў і выканаўцаў сталінскага тэрору. Трэба лічыць злачынствы сталінізму злачынствамі супраць людзкасьці, якія не падлягаюць тэрміну даўнасьці.

10. Антыканстытуцыйнай практыкай трэба лічыць наяўнасьць партыйных і іншых наменклятурных пасадаў. Прыналежнасьць да палітычных арганізацыяў не павінна даваць ніякіх прывілеяў па-за межамі гэтых арганізацыяў.

Распрацаваць механізм адкліканьня з пасады кіраўніка любога рангу.

11. Магчымасьць выкарыстаньня права на свабоду здабыцьця і пашырэньня інфармацыі несумяшчальная з прысутнасьцю ў Крымінальным кодэксе БССР артыкулаў, якія прадугледжваюць кару за "распространение заведомо ложных измышлений, порочащих государственный и общественный строй" і за "антысавецкую агітацыю і прапаганду" як за дзяржаўныя злачынствы. Гэтыя артыкулы выкарыстоўваліся і выкарыстоўваюцца бюракратыяй як юрыдычная аснова для падаўленьня крытыкі. Судовае адказнасьці за паклёп цалкам дастаткова, каб засьцерагчыся ад сьвядомага скажэньня факту нядобрасумленнымі людзьмі.

12. Дзейнасьць рэспубліканскіх органаў бясьпекі мусіць быць справаздачнаю перад Вярхоўным Саветам БССР. У Вярхоўным Савеце павінна існаваць камісія па справах дзяржаўнае бясьпекі. Неабходна прадугледзець стварэньне грамадзкіх камісіяў, якія б мелі права ажыцьцяўляць кантроль за дзейнасьцю рэспубліканскіх органаў бясьпекі і МУС.

13. Кожны грамадзянін БССР павінен мець права знаёміцца з інфармацыяй, зьбіранай пра яго ў дзяржаўных установах; карыстацца неабмежаваным правам зьвяртацца ў суд, у КАНСТЫТУЦЫЙНЫ СУД.

14. У месцах зьняволеньня лягернага тыпу ня толькі не магчымае перавыхаваньне пакараных, але, наадварот, там паглыбляецца злачынная скіраванасьць людзей, бо сістэматычна парушаюцца правы чалавека. Насьпелі радыкальныя зьмены карнае сістэмы і незалежны грамадзкі кантроль над ёю. Злачынцы павінны адбываць пакараньне на тэрыторыі рэспублікі.

15. Прызнаць найбольш адпаведнымі прававой дзяржаве суд прысяжных і непасрэдныя выбары судзьдзяў.

16. Павінны існаваць дакладныя гарантыі захаваньня прэзумпцыі бязьвіннасьці. Адвакат, пачынаючы з моманту затрыманьня, мусіць браць удзел ва ўсіх стадыях судаўніцтва, прысутнічаць на допытах і ўзяцьці паказаньняў.

17. Скасаваць сьмяротную кару.

18. Войскі МУС на тэрыторыі БССР павінны фармавацца з грамадзян БССР і падпарадкоўвацца Міністэрству унутраных справаў БССР.

## 4. ЭКАНОМІКА

КАНФЭДЭРАЦЫЯ лічыць, што да эканамічнага крызісу на Беларусі прывялі: 1/ адсутнасьць сувэрэнітэту ў рэспублікі, што выявілася ў сваволі саюзных міністэрстваў і ведамстваў на яе тэрыторыі; 2/ адсутнасьць сувэрэнітэту большасьці таваравытворцаў, пра што сьведчыць бяспраўнасьць калектываў у распараджэньні выробленым прадуктам.

Дзеля ліквідацыі эканамічнага крызісу на Беларусі неабходна:

1. Ліквідаваць і надалей не дапускаць абмежаваньні відаў дзейнасьці кааператываў /за выключэньнем вызначаных у крымінальным кодэксе/.

2. Прыняць новы закон аб індывідуальнай працоўнай дзейнасьці, у якім асобным людзям, як суб"ектам эканамічнай дзейнасьці, даць аднолькавыя з кааператывамі правы.

3. Узаконіць права працоўных калектываў дзяржаўных прадпрыемстваў абвяшчаць сябе кааператывамі, пасьля чаго іхняя дзейнасьць мусіць вызначацца законам аб кааперацыі. Гэтыя захады прадыктаваныя тым, што фактычна валодае дзяржаўнай уласнасьцю бюракратыя. Усьлед за Марксам бюракратыю трэба трактаваць як клясу, прыватнай уласнасьцю якое з"яўляецца дзяржава. Перадача дзяржаўнай уласнасьці ва уласнасьць самых працоўных пазбавіць бюракратыю эканамічнае базы існаваньня. Нарэшце ажыцьцявіцца славуты заклік "ЗАВОДЫ — РАБОЧЫМ".

4. Заканадаўча замацаваць за кожным селянінам права выхаду з калгаса зь зямлёй, якая б перадавалася селяніну мясцовым Саветам у карыстаньне на правах спадчыннай арэнды. Самастойная сялянская /фэрмэрская/ гаспадарка павінна карыстацца тымі ж правамі, што і кааператыў. Інакш нельга рэалізаваць рэвалюцыйны прынцып "ЗЯМЛЮ — СЯЛЯНАМ".

5. Прыняць закон аб зямлі, які б замацаваў за усім беларускім народам яго манапольную ўласнасьць на зямлю і іншыя прыродныя рэсурсы БССР. Зямлю і іншыя прыродныя рэсурсы трэба перадаць ва ўласнасьць мясцовым Саветам без права адчужэньня. Мясцовыя Саветы мусяць мець права здаваць гэтую зямлю ў арэнду. Арандатар павінен несьці адказнасьць перад Саветам за рацыянальнае, экалягічна бясьпечнае выкарыстаньне надзелу.

6. Арганізацыі вышэйшага рангу, а таксама розныя формы кааперацыі павінны утварацца толькі зь ініцыятывы прадпрыемстваў, калі калектывы прадпрыемстваў палічаць гэта неабходным. Органы плянаваньня мусяць разьлічваць толькі на эканамічныя мэтады.

7. Каб замацаваць самафінансаваньне рэспублікі, актывізаваць гаспадарчую дзейнасьць ды забясьпечыць таварамі народнага спажываньня насельніцтва Беларусі, засьцерагчы рэспубліку ад уплыву інфляцыйных працэсаў іншых рэгіёнаў, палегчыць наладжваньне непасрэдных сувязяў з краінамі сьвету, неабходна разгледзець пытаньне аб утварэньні Дзяржбанку БССР, які б дзейнічаў на гаспадарча-разьліковай аснове і меў выключнае права рэгуляваньня грашовага звароту рэспублікі, касавага выкананьня бюджэту БССР, разьліку з кантрагентамі унутры і за межамі рэспублікі, уліку вэкселяў, выпуску білетаў Дзяржбанка БССР.

/працяг на стар.4/

2. З тэзы пра дзяржаўнасьць мовы вынікае абавязковасьць выкарыстаньня беларускае мовы ва ўсіх сферах грамадзка-палітычнага жыцьця і на ўсіх узроўнях адукацыі. Дзяржаўныя служачыя БССР абавязаны ведаць беларускую мову.Калі служачыя працуюць у рэгіёнах, якія насяляюць у вялікай колькасьці прадстаўнікі іншых нацыянальнасьцяў /літоўцы, палякі, рускія і г.д./, яны мусяць ведаць мовы гэтых народаў.

3. Неабходна нарэшце адмовіцца ад тэзы пра агульнанароднае "беларускае дзьвюхмоўе". Гэтая тэза ўзьнікла ў гады застою як іншасказ русіфікацыі і служыць апошняй. Цэлы народ ня можа быць дзьвюхмоўны. Цяперашні стан паўмоўя, пры якім большасьць беларусаў ня можа карыстацца ніводнаю з моваў, прыводзіць да зьніжэньня інтэлектуальнага патэнцыялу нацыі. Прыярытэтам на Беларусі павінна карыстацца беларуская мова.

4. Усе этнаграфічныя рэгіёны Беларусі, у тым ліку і Палесьсе, павінны мець рэальныя магчымасьці разьвіваць свае культурна-нацыянальныя асаблівасьці.

5. Гісторыя Беларусі, а не гісторыя Расіі пад шыльдай гісторыі СССР павінна займаць першаснае месца ў сістэме асьветы БССР.

6. Істотную частку гістарычнае памяці народу складае старажытная сымболіка. Канфэдэрацыя выступае за афіцыйнае прызнаньне нацыянальнае беларускае сымболікі /гэрб "Пагоня", бел-чырвона-белы сьцяг/.

7. Існуючая сістэма аховы помнікаў ёсьць злачынства перад культурай. Кожны вінаваты ў зьнішчэньні альбо пашкоджаньні помнікаў гісторыі і культуры павінен прыцягвацца да суровай крымінальнай адказнасьці. Дзеля гэтага трэба неадкладна ўдасканаліць закон.

8. Кіраваньне культурным жыцьцём,навукай і асьветай павінна быць карэнным чынам перабудаванае, пазбаўленае манаполіі, залішняй цэнтралізацыі і павінна належаць толькі кампэтэнцыі рэспублікі.

Захаваньне і разьвіцьцё нацыянальнае культуры павінна быць прыярытэтнаю задачаю дзяржавы. Усе буйныя будаўнічыя і іншыя праекты павінны праходзіць экспэртызу грамадзкіх экспэртных камісіяў ды органаў культуры на адпаведнасьць нацыянальна-культурным інтарэсам народу Беларусі. Аднавіць прыярытэт народазнаўчых навукаў і палепшыць іх фінансаваньне.

9. Лічым неабходным гуманізацыю адукацыі. Дзеля павышэньня ўзроўню адукацыі пагадзіцца з плюралізмам у сфэры асьветы. У стварэньні і ўдасканаленьні адукацыйных установаў павінны мець права ўдзельнічаць любыя арганізацыі і прыватныя асобы.

10. Адзін з найпершых абавязкаў ураду і грамадзкасьці БССР — канкрэтная дапамога беларускім нацыянальным меншасьцям у Польшчы, Літоўскай ССР, Латвійскай ССР, Канадзе, ЗША, Аўстраліі, Аргентыне і інш. Дзяржава павінна падтрымліваць і заахвочваць культурна-навуковыя і прыватныя кантакты з суайчыньнікамі.

Зрабіць захады па аднаўленьні Вільні як беларускага культурнага цэнтру. Дзеля разьвіцьця беларускага нацыянальна-культурнага руху на Беласточчыне надаваць пільную ўвагу і аказваць матар'яльную дапамогу будаўніцтву Беларускага музэю ў Гайнаўцы.

11. Прадстаўнікі іншых нацыянальнасьцяў у БССР павінны мець права і рэальную магчымасьць разьвіваць асьвету, прэсу, культуру на сваіх родных мовах. Дзяржава спрые /у тым ліку матар'яльна/ разьвіцьцю культуры народаў, што жывуць на Беларусі.

12. Раўнапраўныя і дабраахвотныя міжнацыянальныя сувязі — адная з умоваў пасьпяховага разьвіцьця нашае беларускае культуры. Адносіны паміж народамі СССР і ўсяго сьвету павінны ўсталёўвацца больш інтэнсіўна і беспасрэдна.

Стварыць Інстытут Беларусазнаўства,які б займаўся прапагандай беларускае культуры ў краіне і сьвеце.

13. Культурная спадчына беларускае нацыі належыць нам уся, без астатку. Неабходна спыніць навешваньне палітычных ярлыкоў на тых дзеячоў беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, якія, сваечасова разгледзеўшы антычалавечную сутнасьць сталінізму і фашызму, адвярнуліся ад іх. Неабходна вярнуць чытачу іх навуковыя і мастацкія творы.

14. Ушанаваць помнікамі усе месцы масавых растрэлаў і пахаваньняў бязьвінных людзей у часы сталінскага тэрору. Апублікаваць поўныя сьпісы ахвяраў рознага роду рэпрэсіяў. Падтрымаць дзейнасьць "Мартыралогу Беларусі" і грамадзкае камісіі па расьсьледаваньні злачынстваў сталінізму канкрэтнай дапамогай.

Дамагацца публікацыі ў рэспубліканскай прэсе вынікаў працы ўрадавай камісіі па расьследаваньні фактаў масавых растрэлаў людзей у Курапатах.

## 7 ЭКАЛЁГІЯ

Галоўныя прычыны крытычнае экалягічнае сітуацыі ў рэспубліцы -- гэта сваволя саюзных ведамстваў, экстэнсіўная эканоміка, адсутнасьць экалягічнай сьвядомасьці.

Каб карэнным чынам палепшыць экалягічную сітуацыю, неабходна:

1. Перадаць усе сродкі вытворчасьці і усю ведамасную ўласнасьць на тэрыторыі БССР пад юрысдыкцыю рэспублікі.

2. Мы далучаемся да ініцыятывы прыбалтыйскіх рэспублік абвясьціць наш рэгіён бяз"ядзернай зонай, г.зн. зонай, вольнай ад ядзернай зброі і АЭС.

3. У выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС рэспубліка на стагодзьдзі наперад атрымала настолькі вялікую радыяцыйную дозу, што любы хімічны дадатак можа паставіць народ на мяжу выміраньня. Таму падтрымліваем заклік акадэміка Ю.Астроўскага пра абвяшчэньне на Беларусі мараторыю на разьмяшчэньне экалягічна шкодных вытворчасьцяў /"Звязда", 13.07.88 г./.

Патрабуем тэрмінова перапрафіляваць Наваполацкі завод бялкова-вітамінных канцэнтратаў /ЗБВК/, Драгічынскага БХЗ, наступных чэргаў Ігналінскай АЭС, пятае чаргі Салігорскага калійнага камбінату, Скідзельскага біяхімічнага заводу і новых магутнасьцяў аб"яднаньня "Азот" у Гародні і Шчучыне. Неабходна спыніць выкананьне валюнтарысцкіх плянаў асушальнай меліярацыі Палесься і абвалаваньня ракі Прыпяць. Паставіць пад кантроль грамадзкасьці выкананьне гэтых патрабаваньняў.

4. Наладзіць масавы выпуск аналізуючай і кантралюючай апаратуры, а таксама індывідуальных дазіметраў.

5. Патрабуем скарыстаць усе дазволеныя законам захады да кіраўніцтва шкодных вытворчасьцяў у Менску, Гародні, Магілеве, Наваполацку, Гомелі, Сьветлагорску, Мазыры ды інш., каб кардынальна палепшыць экалягічную сітуацыю ў гэтых гарадах рэспублікі.

/працяг на стар.6/

6. Патрабуем рэгулярна публікаваць у рэспубліканскім друку інфармацыю пра забрудженасьць паветра, ваду, глебы, прадуктаў харчаваньня радыёактыўнымі рэчывамі і хімічнымі злучэньнямі. Узровень забруджанасьці навакольнага асяродзьдзя і прадуктаў харчаваньня трэба вызначаць па міжнародных стандартах.

У мэтах фармаваньня новага экалягічнага мысьленьня праз сродкі масавай інфармацыі раз гарнуць экалягічны лікбез насельніцтва.

7. Патрабуем максімальнае увагі разьвіццю альтэрнатыўнае энэргетыкі ды досьведу вядзеньня сельскае гаспадаркі без хімічных угнаеньняў.

8. Дамагацца крымінальнае адказнасьці для вінаватых у забруджанасьці прыродных рэсурсаў.

9. Патрабуем стварэньня на Беларусі сеткі Нацыянальных паркаў.

10. Мясцовыя Саветы павінны мець права абкладаць прадпрыемствы, якія забруджваюць навакольле такім падаткам, пры якім сама вытворчасьць стане эканамічна нявыгадная.

11. Неабходна спыніць вытворчасьць ды выкарыстаньне у жывёлагадоўлі БВК і кармавых антыбіётыкаў.

12. Канфэдэрацыя выступае супраць практыкі захаваньня на тэрыторыі СССР рэштак ядзернай энэргетыкі ды ядзернай прамысловасьці іншых краін.

# РЭЗАЛЮЦЫІ II ВАЛЬНАГА СОЙМУ

## Р Э З А Л Ю Ц Ы Я
### Сойму Канфэдэрацыі Беларускіх Суполак пра міжнацыянальныя адносіны на Беларусі

КАНФЭДЭРАЦЫЯ лічыць, што галоўнае пытаньне міжнацыянальных адносінаў на Беларусі — гэта лёс беларускай нацыі, яе права на будучыню — нацыі, якая аптымістычна глядзіць наперад з пашанай і разуменьнем ставіцца да культурных памкненьняў нацыянальных меншасьцяў. Гэта пацьвярджае вопыт рэлігійнай і нацыянальнай цярпімасьці у Вялікім Княстве Літоўскім, нацыянальнае будаўніцтва 20-х гадоў, калі у БССР, пры дзяржаўнасьці беларускае мовы і прыярытэтным разьвіцьці беларускае культуры, плённа разьвіваліся адукацыйная сістэма, навуковыя асяродкі, культурныя пляцоўкі, выдавецкая справа нацыянальных меншасьцяў.

Канфэдэрацыя выказвае перакананьне, што аб"ектыўных прычынаў для міжнацыянальных канфліктаў на Беларусі не існуе. Канфэдэрацыя вітае усе нацыянальна-культурныя памкненьні меншасьцяў, спрыяе ім, але і чакае ад меншасьцяў разуменьня таго, што беларускі народ жыве на сваёй Радзіме і павінен мець цьвёрдыя гарантыі уласнае будучыні. Мы вітаем утварэньне украінскіх, польскіх, рускіх, літоўскіх, яўрэйскіх, татарскіх і любых іншых культурных і зямляцкіх згуртаваньняў, заклікаем маладзёжныя суполкі і зямляцтвы нацыянальных меншасьцяў далучацца да КБС.

Сойм патрабуе спыніць спэкуляцыю паняцьцямі "нацыяналізм", "шавінізм", "інтэрнацыяналізм", у кан"юнктурных палітычных мэтах, лічыць недапушчальным выкарыстаньне слова " інтэрнацыяналізм" для прыкрыцьця акцыяў, дэнацыяналізацыі і уніфікацыі. Клопат пра родную мову, культуру, пра будучыню роднага народу — натуральная права патрыятызму.

Сойм рашуча адмяжоўваецца ад нацыяналістычных праяваў, г.зн. ад распальваньня варожасьці паміж нацыямі, паклёпу на народы, іх прыніжэньня.

## Р Э З А Л Ю Ц Ы Я
### Сойму Канфэдэрацыі Беларускіх Суполак пра ЛКСМБ

КАМСАМОЛ імкнецца да манапольнага кіраваньня усёй грамадзка-палітычнай дзейнасьцю моладзі. Ягонае прывілеяванае становішча замацавана у Канстытуцыі, Законе аб выбарах, Палажэньні аб дзейнасьці аматарскіх аб"яднаньняў і іншых нарматыўных актах. Гэтыя прывілеі супярэчаць дэмакратыі і павінны быць скасаваныя. Трэба забясьпечыць юрыдычную роўнасьць маладзёжных аб"яднаньняў з камсамолам.

Канфэдэрацыя падае заяўку на уступленьне у Камітэт маладзёжных арганізацыяў БССР.

## Р Э З А Л Ю Ц Ы Я
### Сойму Канфэдэрацыі Беларускіх Суполак па праграме Беларускага Фонду Культуры "Спадчына"

Патрабуем апублікаваць для шырокага абмеркаваньня у рэспубліканскім друку праект праграмы Беларускага фонду культуры "Спадчына".

## Р Э З А Л Ю Ц Ы Я
### Сойму Канфэдэрацыі Беларускіх Суполак па беларуска-літоўскіх узаемадачыненьнях

ЗЫХОДЗЯЧЫ:

- з тысячагадовае традыцыі мірнага суседзкага жыцьця нашых народаў;
- з агульнасьці нашых этнічных каранёў;
- з выдатнага плёну узаемаўзбагачэньня нашых культураў;
- з памяці пра традыцыі нашага агульнага Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, пра супольна пралітую кроў у абарончых войнах сярэднявечча і паўстаньнях XVIII і XIX стагодзьдзяў;
- зь еднасьці нашых памкненьняў да ідэалаў дэмакратыі, суверэнітэту, нацыянальнага адраджэньня,

КАНФЭДЭРАЦЫЯ БЕЛАРУСКІХ СУПОЛАК:

- заўляе пра сваю салідарнасьць з рухам літоўскага народу за адраджэньне, увасобленым у САЮДЗІСЕ, маладзёжных, культурных, эканамічных ініцыятывах;
- асуджае спробы бюракратыі пасеяць недавер паміж нашымі народамі распаўсюджваньнем абывацельскіх чутак і паклёпам у друку;
- вітае і падтрымлівае рух літоўскага нацыянальна-культурнага адраджэньня на Беларусі, асуджае пастаянныя перашкоды чыноўніцтва справе арганізацыі літоўскамоўнай адукацыі для жыхароў літоўскіх вёсак БССР;
- вітае і падтрымлівае адроджаны беларускі рух на Віленшчыне і у Вільні, зь сівымі мурамі якое зьвязаныя сьветлыя пачуцьці і літоўцаў, і беларусаў;
- падтрымлівае праграмы заклік аб"яднаньняў "Вільня" і "Сябрына" да адраджэньня беларускае культуры у Вільні і на Віленшчыне, ідэю аднаўленьня Беларускага музэя у Вільні;
- выступае за духоўную еднасьць нашых народаў: узаемнае вывучэньне моваў, знаёмства з культурамі, супольныя грамадзкія, культурныя, экалягічныя і іншыя акцыі.

Прынята на сьвятой зямлі Вільні
15 студзеня 1989 г.

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

TEGYVUOJA LIETUVA!

## РЭЗАЛЮЦЫЯ
**Сойму Канфэдэрацыі Беларускіх Суполак
пра свабоду сумленьня**

Для стварэньня нармальных умоваў, якія б забясьпечылі паўнакроўнае і гарманічнае разьвіцьцё духоўнага жыцьця і асобы ў нашай рэспубліцы, трэба зрабіць наступнае:

1. Зьмяніць артыкул Канстытуцыі такім чынам, каб правы вернуючых і няверуючых былі аднолькавыя;

2. Ураўняць у правах грамадзкія і рэлігійныя арганізацыі;

3. Спрыяць дэмакратычнаму прынцыпу нова га закону аб сумленьні, які б забясьпечыў рэальную немагчымасьць дыскрымінацыі вернікаў;

- які б забясьпечыў магчымасьць праводзіць міласэрную дзейнасьць;
- які б забясьпечыў магчымасьць выдаваць часопісы і кнігі;
- які б забясьпечыў магчымасьць ствараць нядзельныя школы і духоўныя вучылішчы;
- які ліквідаваў бы падатковую дыскрымінацыю рэлігійных установаў.

4. Спрыяць працэсу захоўваньня духоўнай культуры. Для гэтага прасіць улады перадаць пустуючыя храмы, а таксама храмы, выкарыстаньне якіх неэтычнае, адпаведным канфэсіям зь іх няе згоды.

5. Спрыяць працэсу беларусізацыі набажэнстваў і выкладаньню ў духоўных школах па-беларуску.

## РЭЗАЛЮЦЫЯ
**Сойму Канфэдэрацыі Беларускіх Суполак
пра адносіны да Беларускага Народнага
Фронту за перабудову "Адраджэньне"**

КАНФЭДЭРАЦЫЯ Беларускіх Суполак цалкам падтрымлівае ідэі Звароту Арганізацыйнага Камітэту БНФ "Адраджэньне". Кансалідацыя усіх прагрэсіўных сілаў грамадзтва — адзіны шлях барацьбы зь бюракратыяй. Канфэдэрацыя Беларускіх Суполак як гатовая і дзейсная структура лічыць маральным абавязкам усю энэргію і шчырасьць сваіх сяброў скіраваць на дапамогу стварэньню масавага і моцнага Беларускага Народнага Фронту.

Канфэдэрацыя зьвяртаецца да Аргкамітэту БНФ з просьбай лічыць яе аддзелам БНФ, а Каардынацыйную раду Канфэдэрацыі Беларускіх Суполак — Радай упаўнаважаных маладзёжных групаў падтрымкі Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне".

Канфэдэрацыя зьвяртаецца да Аргкамітэту з просьбай улічыць яе Плятформу пры распрацоўцы Праграмы БНФ.

Канфэдэрацыя заклікае ўсе суполкі, што ўваходзяць у яе, абвясьціць сябе групамі падтрымкі БНФ "Адраджэньне".

# Зварот да студэнцкае моладзі

ІІ-і Вольны Сойм беларускіх суполак зьвяртаецца да цябе, БЕЛАРУСКАЕ СТУДЭНЦТВА, з заклікам:

**СТВАРАЙМА БЕЛАРУСКІ СТУДЭНЦКІ САЮЗ!**

Толькі згуртаваўшыся, мы здолеем годна бараніць свае інтарэсы і дамагчыся таго, каб нашае слова было пачута грамадзтвам.

1. Патрабуйма найперш заканадаўча адпавіць даўнюю агульнаэўрапейскую, а гэта знача і беларускую, традыцыю аўтаноміі ўстановаў вышэйшае адукацыі! ВНУ павінны быць тэрытарыяльна незалежныя і мець права выданьня вольнага друку.

2. Патрабуйма адмаўленьня ад сэмэстравае сістэмы навучаньня. Студэнт мусіць вольна абіраць прадметы ды выкладчыкаў!

3. Патрабуйма шырока практыкаваць пасылку лепшых студэнтаў па веды за мяжу.

4. Патрабуйма ўвядзеньня права ВЭТА для студэнцкай фракцыі ў навуковай Радзе інстытута па пытаньнях навучальнага працэсу і побыту студэнтаў.

5. Патрабуйма публічнага разьмеркаваньня стыпендыяў і месцаў у інтэрнатах!

6. Змагаймася за павялічэньне стыпендыяў!

7. Змагаймася за ўвядзеньне рэспубліканскага грамадзянства, зь якога вынікае разьмеркаваньне для студэнтаў-грамадзян Беларусі па рэспубліцы.

8. Змагаймася супраць прызыву студэнтаў у войска пад час вучобы.

9. Змагаймася за рэформу вайсковага навучаньня ў ВНУ, а менавіта:.
- за скасаваньне яго абавязковасьці для дзяўчат;
- за дабраахвотнасьць навучаньня на вайсковых катэдрах для тых, хто адслужыў у войску;
- за адпаведнасьць вайсковае сьпецыяльнасьці грамадзянскай;
- за падпарадкаванасьць вайсковых катэдраў ВНУ.

10. Змагаймася за беларусізацыю навучальных установаў!

11. Патрабуйма выпрацоўкі ды ўвядзеньня канцэпцыі сярэдняй і вышэйшай адукацыі, найбольш адпаведнай беларускім нацыянальна-культурным традыцыям!

12. Дамагаймася скасаваньня працусковай сістэмы ў інтэрнатах.

13. Дамагаймася скасаваньня "фэадальных павіннасьцяў" : прымусовае сельскагаспадарчае працы, удзелу ў афіцыйных дэманстрацыях, ДНД.

# ОТКРЫТОЕ ПИСЬМО

членy Политбюро ЦК КПСС
т.Медведеву В.А.

Уважаемый Вадим Андреевич!
Мы вынуждены обратиться к Вам, члену Политбюро, председателю идеологической комиссии ЦК КПСС, в связи с продолжающейся травлей белорусской интеллигенции и самодеятельных объединений, поощряемой и направляемой идеологической службой республики.

В журнале ЦК КПБ "Политеческий собеседник", газете Минского горкома партии "Вечерний Минск" делались неоднократные попытки дискредитации Алеся Адамовича, Василя Быкова, Зенона Позняка — активных сторонников и участников перестройки, начатой партией, тех, кого мы считаем совестью белорусского народа.

/працяг на стар.8/

Особое удивление вызывает ряд публикаций в журнале "Политический собеседник" № I за 1989 год, которые по духу ближе к застойным и сталинским временам, чем к нынешним.

События 30 октября в Минске показали, что слова Алеся Адамовича /"Огонёк" № 39 за 1988г./ о попытке некоторых идеологических чиновников превратить г.Минск в антиперестроечную Вандею оказались пророческими. Мы обращаемся в Политбюро ЦК КПСС с предложением о создании комиссии ЦК КПСС по расследованию октябрьских событий в г.Минске и изучению сложившейся идеологической обстановки в республике.

Мы требуем привлечь к уголовной ответственности анонимных авторов статьи "За словом — дело", которая была опубликована во всех республиканских газетах, за попытку разжигания национальной вражды между белорусским народом и народами прибалтийских республик.

Мы выступаем против попыток средств массовой информации республики представить отдельные безответственные высказывания частных лиц как идейную платформу всех неформальных объединений. В связи с этим рассчитываем на Ваше содействие публикации программ и проектов программных документов Белорусского Народного Фронта за перестройку "Адраджэньне", Белорусского историко-просветительского общества "Мартыралог БеларусI", Конфедерации белорусских объединений в республиканской прессе.

II Вальный Сойм /Всеобщий съезд Конфедерации белорусских объединений./

Вильнюс, I5 января I989 г.

## СТАТУТ КАНФЭДЭРАЦЫІ (праект)

1. Канфэдэрацыя Беларускіх Суполак /КБС/ аб"ядноўвае маладзёжныя грамадзкія фармаваньні /клюбы,таварыствы, суполкі, гурты падтрымкі /, якія:

а/ ставяць сабе на мэце нацыянальна-культурнае ды дэмакратычнае адраджэньне Беларусі, поўны сувэрэнітэт рэспублікі /апроч глябальных пытаньняў абароны ды зьнешняе палітыкі/;

б/ актыўна і пасьлядоўна працуюць у гэтым кірунку.

2. Сябрам КБС можа быць толькі грамадзкае фармаваньне /гл.п.1. Далей па тэксту - суполка/.

3. Кожная суполка захоўвае самастойнасьць у сваёй дзейнасьці. За дзеяньні, якія не адпавядаюць Плятформе альбо Статуту КБС сяброўства можа быць прыпынена Каардынацыйнай Радай КБС.

4. Суполкі каардынуюць свае дзеяньні, ладзяць сумесныя акцыі салідарнасьці, спрыяюць утварэньню новых суполак.

5. КБС мае свой друкаваны орган.

6. Паміж соймамі каардынацыю дзейнасьці ажыцьцяўляе Рада, склад якой вызначае Сойм. Каардынацыйная Рада ладзіць паседжаньні раз на два месяцы. Адзін-два разы на месяц суполкі паведамляюць пра вынікі сваёй дзейнасьці сябрам Рады.

7. Вярхоўным органам Канфэдэрацыі зьяўляецца Вальны Сойм, які ладзіцца ня менш як раз на год. Рашэньні на Сойме прымаюцца большасьцю (2/3) галасоў. Колькасьць дэлегатаў вызначае Каардынацыйная Рада.

ПРАПАНУЕМ усім суполкам у бліжэйшы час адначасова правесьці наступныя акцыі:

22.03.89. — 125-я ўгодкі па К.Каліноўскім. Арганізуйма вечарыны, мітынгі, збор грошаў на пабудову помніка Каліноўскаму ў Гародні.

25.03.89. — 71-я гадавіна абвяшчэньня ўрадам БНР устаўной граматы аб незалежнасьці. Арганізуйма сходы, канфэрэнцыі дзеля высьвятленьня аб"ектыўнай гісторыі нацыянальна-вызваленчага руху на Беларусі.

18.04.89. — Міжнародны дзень аховы помнікаў. Арганізуйма грамадзкія абмеркаваньні планаў рэстаўрацыі, слайд-вечарыны, талокі на помніках культуры і архітэктуры.

Сярэдзіна красавіка — Гуканьне Вясны, фальклёрнае сьвята абуджэньня зямлі ад зімовага сну.

## СТАТЫСТЫКА СОЙМУ

На Сойме прысутнічала 263 паслы ад 43 беларускіх патрыятычных суполак розных накірункаў, 11 дэлегатаў ад гуртоў падтрымкі БНФ "Адраджэньне", 12 паслоў ад палітклюбаў г.Менску.

Ганаровымі гасьцямі Сойму былі Аляксей Марачкін, Зянон Пазьняк, Кастусь Тарасаў, Алег Бембель, Анатоль Сідарэвіч, Алесь Емяльянаў. Прысутнічалі і бралі чынны ўдзел у працы Сойму прадстаўнікі Літоўскага Руху за перабудову "Саюдзіс", Украінскага Дэмакратычнага Саюзу, Украінскага Гэльсінскага Саюзу. Прэса ды тэлебачаньне былі прадстаўленыя карэспандэнтамі газэт: "Правда", "Звязда", "Літаратура і мастацтва", "Чырвоная змена", "Советская Белоруссия", "Знамя юности", "Голас Радзімы"; часопісаў: "Крыніца", "Нёман", а таксама карэспандэнтамі ТАСС — БЕЛТА ды радыёстанцыі "Беларуская маладзёжная". Прысутнічаў карэспандэнт газэты "Вячэрні мінск".

Наш сёлетні Вальны Сойм праходзіў у будынку былой літоўскай гімназіі, дзе ў 1937 г. выступаў Міхась Забэйда-Суміцкі ды хор Шырмы.

## ІНФАРМАЦЫЯ

У сувязі з тым, што падчас усесаюзнага перапісу насельніцтва на тэрыторыі БССР былі азначаны шматлікія выпадкі сьвядомага націску на людзей з мэтаю паўплываць на іх адказы па пункце "родная мова", рэдакцыя просіць чытачоў неадкладна паведамляць пра такія факты Радзе КБС і Савету Міністраў СССР, а таксама ў друк.

Рэдакцыя просіць суполкі дасылаць матар"ялы пра сваю дзейнасьць, неадкладна паведамляць усе факты бюракратычнага ўціску правоў аб"яднаньняў і асоб.

Каардынацыйная Рада нагадвае, што суполкі, якія ратыфікавалі на сваіх агульных сходах "Зварот" павінны найхутчэй даслаць паведамленьні на наш адрас.

Дасылайце нам таксама свае прапановы ды заўвагі па праекце Статута Канфэдэрацыі.

ЗАЎВАГІ РЭДАКЦЫІ НУМАРА:

Мы лічым, што рэформа правапісу 1933 г. моцна пашкодзіла беларускай мове. Таму імкнемся трымацца дарэформенага правапісу.

Перапрашаем за шматлікія моўныя ды фактычныя недакладнасьці ў папярэднім выпуску інфармацыйнага паведамленьня Канфэдэрацыі.

Адрас: 220102 г.Мінск, вул.Ангарская, д.10, к.2, кв.79. Мацкевіч Караліне. Тэл. 45-96-06.



Выпуск рыхтавалі: А.Сёмуха, Г.Лойка, К.Мацкевіч.